# Хто каго дабрэйшы?






СТРАКАЗА ПРЕС

Хто каго мацней, хто каго жудасьней — вось пра што ўчора спрачаліся ўвесь дзень зьвяры.

Спачатку яны думалі: усіх жудасьней, усіх мацней-

**БАСЬЦІСТЫ СЬЛІМАК.**



Потым вырашылі: усіх жудасьней, усіх мацней —

**ЖУЧОК-РАГАЧОК.**



Пасьля жучка-рагачка усіх жудасьней, усіх мацней
**КОЗЬЛІК.**



За козьлікам —
**БАРАН — БІ Ў БАРАБАН.**



За барабанам з баранам -
**БЫК-РАГАМІ ТЫК.**



За быком -
**НАСАРОГ-КРЫВАРОГ.**





А за насарогам, а за крываротам усіх жудасьней, усіх мацней - **ІКЛАСТЫ СЛОН.**

Так і сказалі зьвяры слану:

-Ты, слон, самы дужы! Ты, слон, самы жудасны!

Але слон пакрыўдзіўся.

-Вядома ж, - кіўнуў ён, - я самы дужы. Але хіба я самы жудасны і самы злы? Хлусьня! Сланы добрыя. Прашу, калі ласка, мною нікога не пужаць. Я вельмі люблю маленькіх!